

Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 16 (163) Вільня, Серада 15 Лютага 1928 г. Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ:
Вільня, Вострабрамская вул. № 8, кв. 1.
(Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.
Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта.
— ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА:
На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 2 зл., на шэсьць месяцаў — 4 зл., на год — 8 зл.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

## Дрэва сьмерці.

У Біблії напісана, што Бог, стварыўшы рай і першага чалавека для жыхарства ў ім, сказаў таму чалавеку: можаш есьці плады ад усіх дрэваў, толькі плады аднаго дрэва ня еш, бо памрэш. Чалавек праз нейкі час трымаўся боскай забароны, але-ж спакусіла яго жонка. Першы чалавек зьеў плод забароненага дрэва і памёр.

У палітычным жыцьці Беларускага Народу таксама ёсьць адно дрэва, на якім растуць такія самыя сьмяротныя плады, як на біблійным райскім дрэве. Гэта дрэва—цалаваньне бота ў паноў і дужых гэтага сьвету, што называецца лякайскім ўгодніцтвам і прадажніцкаю здрадаю інтарэсам Беларускага Народу ў яго барацьбе і змаганьні за свае правы і належнае яму месца пад сонцам. Прааналізуем гэтую справу...

Некалькі гадоў таму назад эндэцкі ўрад братоў Грабскіх парадзіў Паўлюкевіча. І вось, гэты Паўлюкевіч, які выдае сябе за доктара мэдыцыны, а па некаторым дадзеным, будучы вэтэрынарным фэльчарам, пачаў рабіць угодніцкую палітыку, пачаў баламуціць беларускія прапоўныя гушчы дзеля атрымоўванае субсыдыі. Але-ж гэтая праца Паўлюкевіча не дала яго гаспадаром абсалютна нічога, а сам Паўлюкевіч аскандаліўся і, такім чынам, палітычна памёр.

За верную службу Паўлюкевіч атрымаў, як баявы інвалід, канцэсію на адзінага роду ў Польшчы грашовую грайку. Месца-ж Паўлюкевіча, роўна год таму назад, заняў б. акцызны ўрадовец, Фр. Умястоўскі.

Але-ж, вельмі хутка сутнасьць працы Умястоўскага выясьнілася. Беларускі Народ зразумеў, што гэта воўк у авечай скуры... А калі так, дык і Умястоўскі, укусіўшы ўгодніцкага хлеба, таксама, як Паўлюкевіч, пашоў на змарку, далоў з палітычнага жыцьця.

Беларускі Народ цяпер ужо добра ведае хто такі Паўлюкевіч і Умястоўскі і дзеля гэтага, палажыўшы іх у палітычную магілу, ужо ніколі ня дасьць ім ніякае магчымасьці падняцца ізноў.

Пустое месца, па благой памяці Паўлюкевічу і Умястоўскім, заняў „наўчоны спадар“ Янка Станкевіч.

Вось як гэта сталася:

„Kurjer Wileński“ зьяўляецца органам польскіх дэмакратаў і становіць быццам нешта лібэральнае. У процівагу першым двум польскім групам (эндэкі з „Dziennika Wileńskiego“ і абшарнікі - манархістыя з польскага „Słowa“), дэмократычная група адзначаецца тым, што яна глядзіць на беларускі нацыянальны рух зырчэйшымі вачыма. Паны дэмократы існаваньне Беларускаго Народу лічаць фактам і нацыянальны рух—актуальным і нават магутным, што іх таксама, як і эндэкаў, вельмі трывожыць. Трывожыць іх прыбой з беларускіх палёў... А калі гэдак, дык і яны прыкладаюць натугі, каб польскасьцю апанаваць беларускі рух, і імкнуцца да таго, каб кіраваць беларускім нацыянальным рухам.

Дык вось, у мэтах барацьбы з нацыянальным рухам яны выставілі—фэдэралізм і жадаюць увайсьці ў супрацоўніцтва з беларускімі групамі, а такім чынам біць Беларусаў беларускімі рукамі.

Мы памятаем, як прыхільна адносіліся дэмократы да Паўлюкевіча; яны думалі што Паўлюкевіч зьдзейсьніць іх жаданьне. Але-ж гэтая праца не дала вынікаў, бо народ за Паўлюкевічам, які павёў адкрыта палянафільскую палітыку, не пайшоў.

Бачачы кампрамітацыю Паўлюкевіча перад народам, дэмократы пакінулі яго і, як інваліду, далі канцэсію, каб ён меў кавалак хлеба...

Не бяз іх выплыў на паверх палітычнага жыцьця Умястоўскі, які таксама павёў адкрытае палянафільства. Умястоўскі на польскія грошы пачаў сеяць сярод Беларусаў польскую культуру і... фэдэрацыю, пад польскім верхаводзтвам. Ясна, што Умястоўшчына, таксама як і Паўлюкевічаўшчына, збанкрутавала.

Вынікі адкрытага палянафільства далі доказ паном дэмакратам, што гэтакім спосабам нічога ня будзе. І вось, пасьля гэтакіх няўдачных пробаў паны польскія дэмакраты пачалі шукаць іншых Беларусаў, каб ужо новымі замаскованымі спосабамі разьбіваць беларускі нацыянальны рух.

На гэты раз цёмная доля падарыла ім „наўчонага філёлёга“ Янку Станкевіча, які знаходзіцца ў асабіста прыяцельскіх адносінах з некаторымі супрацоўнікамі „Kujera“. З іх фактычнай дапамогай пад фактычным сваім кіраўніцтвам Янка Станкевіч пачаў выдаваць газэту „Народ“.

Ведама, што Янка Станкевіч пры дапамозе польскіх дэмакратаў будзе мець магчымасьць весьці баламутную і правакацыйную працу, але-ж ад гэтае працы Беларусам будзе шкода, а Янку Станкевічу пэўна пападзе кавалак хлеба ды з маслам ад паноў польскіх дэмакратаў.

Гэтак пісала „Сялянская Ніва“ ў № 49 (100) за 1927 год. Проці гэтага ніхто, ані „Кур'ер“, ані сам Я. Станкевіч, нават не запярэчылі. Выходзечы з вышэй паданага, мы зазначаем, што Янка Станкевіч укусіў пладоў з „Дрэва сьмерці“. А калі так, дык ясна, што ён памрэ.

Першага чалавека ў боскім раю на грэх спакусіла жонка, а Янку Станкевіча — грошы і тое прывілегіраванае палажэньне, якое ён займае цяпер сярод некаторых польскіх колаў. Маючы грошы, Янка Станкевіч наняў сабе некалькі хлапцоў, на жаль, быўшых актыўных і выдатных грамадзістаў, ды распачаў энэргічную працу, мецячы папасьці ў Сойм. У мэтах гэтага Я. Станкеўчык выставіў сьпісак кандыдатаў у некаторых акругох пад назовам: „Беларускія сяляне і работнікі“. Па Віленскім і Лідзкім окрузе на першым месцы стаіць сам Янка Станкевіч, па Наваградзкім—Чатырка, а па Сьвянцянскім—Ю. Мурашка.

Беларускія выбаршчыкі павінны ведаць гэта і ні ў якім выпадку не павінны даць ані воднага свайго голасу за сьпісак пад вышэйшым назовам, памятаючы, што гэта сьпісак польскіх, г. зв., дэмакратаў, якія жадаюць правясьці ў Сойм сваіх пакорных служак — Янку Станкевіча, Чатырку і інш.

Няхай ведае „наўчоны спадар“ Янка Станкеўчык і яго кумпанія, што з забароненага дрэва, з „дрэва сьмерці“ нельга есьці пладоў. Мы павінны даказаць, што прадажніцтва і скурніцтва не праходзяць бяскарна!

## Прадвыбарныя красачкі.

Інструктар Бел. Цэнт. Аб'яд. Выб. К-ту Блёку Нац. Менш. А. Краўчонак заснаваў у месьце Саколцы Павятовы Камітэт гэтага-ж Блёку і паведаміў аб гэтым Сакольскае Стараства.

25 студзеня Сакольскае Стараства прыслала Краўчонку паперу за № 2792/III наступнага зьместу:

„На паведамленьне аб адчыненьні ў Саколцы ў памешканьні пры Гродзенскай вул. № 43, Бел. Павятовага Аб'яд. Выб. К-ту Нац. Менашас. паведамляю, што Старaства прыме да ведама паведамленьне аб адчыненьні ўспомненага Камітэту залежна ад аказаньня довадаў, якія-б сьцьвярджалі, што Вы, як старшыня гэтага Камітэту, маеце польскае грамадзянства і чыннае выбарнае права.

Да часу аказаньня павышшых дакумантаў адчынены Камітэт ня можа быць чынным.

Ад гэтае пастановы маеце права адклікацца ў Беластоцкае Ваяводзтва ў працягу 14 дзён ад часу атрыманьня яе. Стараста Вольскі“.

У наступны дзень паліцыя арыштавала Краўчонка і забрала ад яго ўсе дакументы, якія ён меў пры сабе. Прытрымаўшы гадзін 3 у паліцыі Краўчонка выпусьцілі. Трэба адзначыць, што перад звальненьнем Краўчонка, паліцыянты прынясьлі яму вышэй паданае паведамленьне і сказалі, каб ён ехаў у Вільню, бо тутака (ў Сакольскім павеце) Беларусаў няма.

Пакуль вялася перапіска са Старaствам, гр. Краўчонак пасьпеў зрабіць два мітынгі, дзе Блёк Нац. Менш. меў вялікі пасьпех.

Для ўрэгуляваньня справы прыехаў з Беластоку ў Саколку кіраўнік Акр. Выб. Камітэту Юхневіч, які замовіў 300 штук абвестак аб скліканьні мітынгаў (форма іх падаецца ніжэй).

І вось раніцаю, 30 студзеня, чакаючы ў Павятовым К-це Краўчонка, да Юхневіча прышлі 2 шпадоўнікі з уласьнікам друкарні і канфіскавалі 293 штукі гэтых абвестак. Акрамя гэтага забралі з сабою вывеску Камітэту, якая была сарвана ўвечары 29 студзеня. Юхневіча такжа павялі на пастарунак, дзе сьпісалі пратакол канфіскаты, а потым выпусьцілі на ўсе 4 стараны, сказаўшы: „Idź pan sobie, tutaj Białorusinów niema“.

Па выхадзе з паліцыі Юхневіч падаў пракурору Беластоцкага Акружнага Суду заяву наступнага зьместу:

„Як інструктар Белар. Цэнтр. Аб'яд. Выб. К-т Блёку Нац. Менш., 29 студзеня б. г., будучы ў месьце Саколцы ў друкарні Кацэнэленбога і Шпітальскага я замовіў друкі—абвесткі склікаць мітынгі ў колькасьці 300 штук. 30 студзеня, г. зн. назаўтра па выкананьні друкаў, прынёс іх у памешканьне свайго знаёмага Антона Краўчонка, выбарнага інструктара на Сакольскі павет, які пражывае пры Гродзенскай вул., № 43. Цераз некалькі мінут пасьля майго прыходу ў гэтае памешканьне, зьявіліся да мяне чыннікі сьледчага ўраду ў Саколцы разам з уласьнікам друкарні і, як мне азнаймілі, па распараджэньню Сакольскага Старасты, арыштавалі друкі ў колькасьці 293 штук. Мяне павялі на пастарунак паліцыі, дзе напісалі пратакол канфіскаты і потым збадалі мяне ў гэтай справе ў сьледчым урадзе Павятовай Каманды. Сьледчы ўрад вінаваціць мяне ў тым, быццам я нялегальна распаўсюджваю лістоўкі з недазволеным адноснымі ўладамі зьместам.

Стараючыся аб звароце друкаў, я зьвярнуўся ў Аддзел Бясьпечнасьці Сакольскага Старaства, дзе паведамілі мяне, што друкі разам са справаю будуць скіраваны да п. Пракурора.

Прымаючы пад увагу, што я зьяўляюся грамадзянінам Рэспублікі, маю чыннае і пасыўнае выбарнае права, дык думаю, што маю права, заказваць падобныя друкі і расплякатоўваць там, дзе маю склікаць прадвыбарны мітынг, папярэдзіўшы аб гэтым адносную ўладу праўным спосабам.

У дадатак маю гонар зазначыць, што да складу Белар. Павятовага Выбар. Кам. Блёку Нац. Менш. ў Саколцы не належу, а друкі заказаў на ўласную руку, як інструктар, бяз ніякага паразуменьня з якім-колечы Камітэтам.

У выніку павышшага маю гонар ветліва прасіць п. Пракурора Беластоцкага Акружнага Суду зьвярнуць мне гэтыя друкі.

Канстанцін Юхневіч.
31 студзеня 1928 г.
м. Беласток“.

. . . . . . . . . . . . . . .

Зьмест сканфіскаваных абвестак быў напісаны ў польскай і беларускай мовах.

А напісана было вось што:

Увага.

Сягодня ў . . . 1928 г. а гадз. . . . . пп. у м . . . вуліца . . адбудзецца сялянскі мітынг. Будуць прамаўляць прадстаўнікі Белар. Цэнтр. Выб. Кам. Блёку Нац. Меншасьцяў.

## Шаранчы.

І куды вас гэтак многа,
Ці ня ў вёску к' нам крычаць,
Абяцаць чаго-якога,
Каб за вас галасаваць?!

Э, пустыя вашы гукі!
Кіньце грудаі надрываць, —
Мы ўжо знаем вашы штукі
І што можаце вы даць...

Годзе вам круціць рукамі
Ды даваць нам школ, зямлі, —
Каб вы тое мелі самі,
Што дагэтуль нам далі!...

Не памогуць і прымусы,
Галасы вам нашы ўзяць,
Ўсё дарма, бо Беларусы
Йдуць за БЛЁК галасаваць!

Усе як ёсьць за восемнастку
Аддадзём мы голас свой,
Вы-ж паночкі сваю ласку
Дык спаўняйце над сабой!

*Вясковы.*

## Перамога Нацыянальнай Беларускай ідэі.

У Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт Блёку Нацыянальных Меншасьцяў паступілі 2 заявы, зьмест якіх падаём ніжэй:

1) „Пазнаёміўшыся з праграмаю і лёзунгамі павышшага Выбарнага Камітэту, я, Язэп Тумас, паводле свайго ўласнага пераканацьня даўно ўжо парваў усялякія зносіны з был. NPCh. і ўступаю ў Бел. Аб'яд. Выб. К-т блёку нац. мен. і прашу залічыць мяне супрацоўнікам гэтага К-ту. Адначасна прызываю і заклікаю ўсіх маіх знаёмых зрабіць гэта-ж самае. Язэп Тумас, вёс. Тургелі, Віл.-Троцкага павету. 7 лютага 1928 году“.

2) „Пазнаёміўшыся з праграмаю і лёзунгамі павышшаго Выб. Камітэту, я, Уладыслаў Сенковіч, былы супрацоўнік „PSL—Wyzwolenie“ і сьведама пераканаўшыся, што з польскаю арганізацыяю нічога супольнага мець не магу—прашу Аб'яднаны Камітэт прыняць мяне ў лік сваіх супрацоўнікаў. У Сеньковіч, вёска Салечнікі, Віл.-Троц. павету. 7 лютага 1928 г.“.

